# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 13 снежня 1994 года | № 133 (10833) | Цана 80 руб.





## СЫНЫ ГЛЯДЗЯЦЬ НА БАЦЬКОЎ

***Для мяне тая сустрэча была знаходкай, адкрыццём. У сваім родным Слуцку, дзе пачуць сёння беларускае слова на вуліцы, у аўтобусе, магазіне, бібліятэцы амаль немагчыма, сустрэў маладую сям"ю, у якой усе размаўляюць паміж сабой на матчынай мове.***

Хто ж гэтыя людзі? Случчане Уладзімір і Людміла Койкі. Ён працуе кіраўніком вытворча-камерцыйнай фірмы. Яна — планавік у камерцыйным банку. Маюць двух сыноў: Рамана і Яна, сямі і трох гадоў. Бацькі, Уладзімір і Людміла, па сацыяльнаму статусу — вяскоўцы. З малаком маці пераймалі мову сваю. Не выракліся яе і калі сталі гараджанамі. Іх сыны ў сваю чаргу глядзяць на тату і маму.

Яшчэ калі Койкі жылі ў Салігорску, сына Рамана ўладкавалі ў дзіцячы сад. Хлопчык задаваў тон у сваёй групе добрым вымаўленнем беларускіх слоў. За што, дарэчы, выхавацелька зрабіла яму напамінак: «Не разговаривай здесь на базарном языке». Хлопчык дома сказаў маці: «Не пайду болей да »брыдкай цёткі". Бацьку давялося ісці ў садзік ды вырашаць канфлікт.

Цяпер жа трохгадовы Ян наведвае ў дзіцячым садзіку групу, дзе ўсе размаўляюць па-беларуску. А калі з татам заходзяць яны да мамы на работу і хлопчык пачынае шчабятаць на роднай мове, супрацоўніцы банка просяць: «Людміла Васільеўна, няхай Янка яшчэ што-небудзь нам раскажа. Так прыгожа ў яго атрымліваецца».

Шкада, але для многіх сёння ў нашым горадзе матчына мова — чужая і непатрэбная. І гэта на Случчыне, адкуль у літаратуру прыйшло не меней трох дзесяткаў пісьменнікаў: Антон Алешка, Васіль Вітка, Алена Васілевіч і іншыя. Горка і крыўдна, калі сустракаеш на вуліцы прадстаўніка інтэлігенцыі, старэйшага пакалення ці сучасніка — і амаль ніхто з іх не можа ці не жадае размаўляць з табой «на роўных», па-беларуску. А той-сёй нават кіне крыўднае: «Мне ваш белорусский язык не нравится».

Ці, скажам, у нашым Доме культуры на вечары, арганізаваным з нагоды 77-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі мясцовай суполкай ПКБ і савета ветэранаў, на сцэне былі вывешаны два сцягі — неіснуючых ужо СССР і БССР. Месца для Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь не знайшлося.

*Міхась ТЫЧЫНА.*
*г.Слуцк.*

## Рабілі ўколы, аблягчалі пакуты

***Іншы раз даводзіцца чуць пра ўрачоў, медсясцёр, фельчараў, якія нетактоўна, груба ставяцца да хворых. Ёсць, вядома, такія парушальнікі клятвы Гіпакрата і ў нашым раёне. Але я хачу расказаць аб сумленных і сардэчных людзях.***

На працягу апошніх пяці гадоў здароўе маёй жонкі Фені Іванаўны Волкавай пагоршылася, 17 лютага гэтага года яна памерла. Не дапамаглі мікстуры, вялікія намаганні медперсаналу Любанскай райбальніцы. І ўсё ж я ўдзячны за клопат медсёстрам і фельчарам Яўгеніі Вараб"ёвай, Жанне Гарбацэвіч, Іне Аляшкевіч, Віктару Дастанку і іншым. Два месяцы прыязджалі медыкі з райцэнтра ў нашы Сарачы, рабілі жонцы ўколы, аблягчалі яе пакуты. Пабываў у нас і аўтарытэтны ўрач П.Л.Дзялендзік.

Дарэчы, у мінулым годзе з-за траўмы рукі мне давялося дваццаць дзён прабыць у Сасноўскай участковай бальніцы № 2. Да ўсіх хворых медыкі ставіліся ўважліва. Як тут не ўспомніць добрым словам загадчыцу аддзялення Яўгенію Іванаўну Журавель, медсясцёр Ніну Рыгораўну Татур і Марыю Іванаўну Клачкову...

У цяперашні цяжкі час асабліва часта задумваешся над тым, што добрыя, уважлівыя адносіны лекара — таксама цудадзейнае лякарства.

*Іосіф ШАПЛЫКА.*
*в.Сарачы Любанскага раёна.*

## Старшыня Мінскага аблвыканкома ПЁТУХ ПЁТР ПЯТРОВІЧ

**Як мы паведамлялі ўжо, XVIII нечарговая сесія абласнога Савета дэпутатаў зацвердзіла старшынёй Мінскага аблвыканкома П.П.Пётуха. Змяшчаем біяграфічныя звесткі пра яго.**

Нарадзіўся Пётр Пятровіч у 1950 годзе ў в. Вялікія Жаберычы Крупскага раёна ў сялянскай сям'і. Закончыў сярэднюю школу, служыў у Савецкай Арміі. З 1971 па 1978 год працаваў майстрам, тэхнолагам, намеснікам начальніка цэха, начальнікам цэха Барысаўскага завода аўтатрактарнага электраабсталявання. Потым — на партыйнай рабоце: намеснік загадчыка аддзела Барысаўскага гаркома КПБ, сакратар парткома вытворчага аб'яднання "Барысаўдрэў", другі сакратар гаркома. Выбіраўся першым намеснікам старшыні, старшынёй Барысаўскага гарвыканкома. З 1991 года — намеснік старшыні Дзяржкампрома Беларусі, затым — прэзідэнт канцэрна "Белмясцпром".

П.П.Пётух закончыў у 1978 годзе без адрыву ад вытворчасці Беларускі політэхнічны інстытут і ў 1989 годзе — Мінскую вышэйшую партыйную школу, атрымаўшы спецыяльнасці інжынера-механіка і выкладчыка грамадскіх дысцыплін.

Узнагароджаны медалём.

Жанаты. З жонкай Валянцінай Іванаўнай маюць дачку-школьніцу.

9 снежня 1994 года нечарговая сесія абласнога Савета па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі зацвердзіла Пятра Пятровіча Пётуха старшынёй Мінскага аблвыканкома.

■ З юбілеем!

## Наш чалавек са «Звязды»

**Гэтымі днямі вядомаму беларускаму журналісту Івану Кандратавічу Казлову спаўняецца 75 гадоў.**

Доўгі час ён працаваў у «Звяздзе», але не меней таго — у «Мінскай праўдзе». Быў карэспандэнтам газеты па Нясвіжскаму кусту, у апараце рэдакцыі. Дасціпныя фельетоны, актуальныя карэспандэнцыі, змястоўныя артыкулы за подпісам «Я.Казлоў», не перабольшваем, заўсёды выклікалі жывы водгук у чытачоў.

Іван Кандратавіч нарадзіўся на Капыльшчыне, у Доктаравічах. У Міншчыну ўлюбёны ўсё жыццё. Тут ён партызаніў, тут нарадзіліся яго дзеці, тут ён прыйшоў у журналістыку. Да Янкі Казлова, чалавека добразычлівага, памяркоўнага, з тонкім гумарам, выдатнага знаўцы беларускай мовы, заўжды цягнуцца сябры, якіх у яго вельмі шмат, маладыя журналісты.

Калектыў «Мінскай праўды» віншуе Івана Кандратавіча Казлова з юбілеем, жадае моцнага здароўя, і няхай ніколі не заржавее яго таленавітае пяро!

## РЭЗКАГА ПАВЫШЭННЯ ТАРЫФАЎ НА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ НЕ БУДЗЕ

Кабінет Міністраў Беларусі прыняў пастанову, якая прадугледжвае ўвядзенне ў рэспубліцы з 1 студзеня 1995 года сістэмы прадастаўлення грамадзянам безнаяўных субсідый на аплату жылля і камунальных паслуг. І калі ў падобнай пастанове ад 31 кастрычніка планавалася, што з 1 студзеня ўсе затраты на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі поўнасцю пакрываюцца насельніцтвам, то першым жа пунктам цяперашняй пастановы ўрад адмяняе гэта.

Такім чынам, можна канстатаваць, што рэзкага павышэння тарыфаў не будзе. Вырашана, што яны будуць адпускацца паэтапна на працягу ўсяго наступнага года. І калі зараз гранічны ўзровень плацяжоў насельніцтва ў агульным аб"ёме пакрыцця затрат па ўтрыманню жылля і камунальным паслугам складае каля 10 працэнтаў, то са студзеня плануецца давесці яго да 15 працэнтаў. Астатнія затраты па-ранейшаму будуць пакрывацца за кошт датацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі з дзяржаўнага бюджэту.

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## Чарнобылю прысвячаецца

Міжнародны салон "Сучасная медыцына — Чарнобылю" пройдзе ў Мінску з 13 па 16 снежня. Арганізатарамі выступілі Міністэрства аховы здароўя, Акадэмія навук рэспублікі і выставачная кампанія "Экспасервіс". Мэта выстаўкі — прадставіць рынак тавараў, абсталявання і паслуг прадпрыемстваў СНД і замежных фірм, якія выпрабляюць медтэхніку, інструментарый, фармакалагічныя прэпараты, што садзейнічаюць умацаванню здароўя і лячэнню захворванняў, у тым ліку і выкліканых вынікамі чарнобыльскай аварыі.

У рабоце салона прымуць удзел больш як 60 розных прадпрыемстваў і фірм, у тым ліку з Германіі, Літвы, Францыі, Японіі, Югаславіі, Ізраіля і Эстоніі. Сярод іх такія вядомыя ва ўсім свеце прадпрыемствы, як французскае "П"ер Фабр", яно гэтымі днямі адкрывае ў Мінску сваю аптэку, японскае "Токіо Боекі", якое працуе на рынку былога СССР з 1967 года, група "Бафур Іпсен", што ўваходзіць у дзесятку буйнейшых фармацэўтычных кампаній Францыі, а таксама шырокавядомае ў свеце нямецкае гандлёвае таварыства "Гермед". У той жа час палову ўдзельнікаў складуць беларускія фірмы. Варта адзначыць, што Рэспубліканскі выставачны цэнтр (былая ВДНГ) і ВК "Экспасервіс" аказалі бясплатныя паслугі беларускім дзяржаўным прадпрыемствам, каб яны маглі ў поўным аб"ёме прадставіць сваю прадукцыю і адначасова пазнаёміцца з дасягненнямі іншых удзельнікаў салона. Дарэчы, агульная сума гэтых бясплатных паслуг роўная прыкладна 7 тысячам долараў.

У рамках міжнароднага салона пройдзе семінар, прысвечаны эфектыўным метадам лячэння з дапамогай лекавых прэпаратаў і медыцынскага абсталявання. У ім прымуць удзел прадстаўнікі Расіі, Літвы, Украіны.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Сацыяльныя грані вёскі

## КАЛГАС ДА ЧАЛАВЕКА БЛІЖЭЙ

Асноўныя пастаўшчыкі сыравіны для вытворчасці прадуктаў харчавання — калгасы і саўгасы, жыхары вёскі. І ім вельмі крыўдна, што ў сельскіх магазінах надзвычай абмежаваны асартымент прадуктаў. Калі ж дадаць, што цэны тут значна вышэйшыя, а зарплата ніжэйшая, чым у горадзе, дык можна смела сказаць: для большасці жыхароў вёскі тыя прадукты проста недаступныя.

— Вось чаму развіццю асабістых гаспадарак сваіх працаўнікоў мы пастаянна ўдзяляем увагу, — гаворыць старшыня прафсаюзнага камітэта калгаса «Шацк» Пухавіцкага раёна А.А.Бенеш. — І ў гэтым нас падтрымлівае праўленне гаспадаркі.

Сёння ў прыватным сектары жыхароў населеных пунктаў Шацкага сельсавета 319 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку 312 кароў, 879 свіней, 68 — авечак, звыш 50 коз, 14 коней. У параўнанні з 1990 годам колькасць усіх відаў жывёлы на падворках прыкметна павялічылася. Толькі сёлета калгас прадаў вяскоўцам 19 нецелей, 74 парасяці.

Вядома, жыўнасць трэба карміць. Але не кожнаму пад сілу назапасіць фуражу. Асабліва адзінокім людзям. І тут на дапамогу прыходзіць калгас. Па льготнай цане членам гаспадаркі (як працуючым, так і пенсіянерам) прададзена сёлета па 300 кілаграмаў збожжа, бясплатна выдзялялася паша для пасьбы жывёлы. Той, хто заключыў дагавор на вырошчванне кармавых караняплодаў, атрымаў бясплатна 20 працэнтаў іх валавога збору. Для працуючых калгаснікаў з першага ўкосу траў выдзелілі па 30 сотак сенажаці. Стымулявалася і здача малака: усе, хто прадаваў яго лішкі дзяржаве, атрымалі за кожныя 100 кілаграмаў 2 соткі сенажаці. Таму насельніцтва ахвотна прадавала малако: ужо 87 тон яго закупіў калгас.

— Так што ў вяскоўцаў можа быць і малако, і мяса. Толькі не лянуйся на ўласным падворку, — працягвае Антаніна Аляксандраўна. — А калгас заўжды дапаможа, не пакіне ў бядзе.

І сапраўды, у апошні час вяскоўцы больш спадзяюцца на дапамогу з боку калгасаў і саўгасаў, чым урада, які такі далёкі ад іх праблем.

*Мікалай ГРЫГАРОВІЧ.*

■ Личное мнение

## ХОРОШАЯ МИНА ПРИ ПЛОХОЙ ИГРЕ

Выступая по республиканскому радио, М.Чигирь оповестил сограждан, что процесс либерализации ценообразования будет продолжен. Аргументировал он этот шаг правительства разницей цен на основные продукты питания в Беларуси и сопредельных республиках, что приводит к вывозу отечественной продукции за рубеж. Что ж, такое объяснение можно было бы принять. Но... при одном условии: если вместе с повышением цен соответственно будет повышена и заработная плата граждан Беларуси. Если же последнее не предполагается (а оно не предполагается), то зачем же делать хорошую мину при плохой игре? Нельзя же, в самом деле, до бесконечности обманывать народ. Нужно сказать ему прямо и открыто: так повелел Международный валютный фонд, а позволить себе роскошь проводить независимую экономическую политику Беларусь не в состоянии.

Конечно, признать это трудно, ибо тогда возникает естественный и неизбежный вопрос: в чем же реально, т.е. не на словах, а на деле, выражается наша "незалежнасць"? Признать это — значит признать полнейший крах той политики, которую проводило руководство республики в последние годы с подачи политдилетанта г-на Шушкевича и его "сяброў" из БНФ. Но разве сколько-нибудь изменит ситуацию к лучшему то, что мы попрежнему будем, подобно страусу, прятать голову в песок? Нисколько, только усугубит — кто бы ни пришел к власти: БНФ, ПКБ или партия любителей пива. Мы — между молотом и наковальней. Международный валютный фонд ставит нас, как нашкодивших мальчишек, в угол. Г-н Черномырдин со товарищи морщит нос, перебирая, что из национального достояния белорусов пригодно для погашения долга, а что нет. Где же выход? Взять у Международного валютного фонда очередной кредит и заткнуть пасть черномырдинскому газпромовскому Молоху? Но что это даст? Выскользнув на время из пасти этого Молоха, мы попадем в еще более прожорливую пасть транснационального валютного Левиафана. Пример Бразилии — другим наука.

А, может быть, хватит, господа, экспериментировать над людьми? Не пора ли честно признать: Беларусь не готова к полномасштабным межгосударственным отношениям. Мужественно признав это, ставить вопрос о полнокровной экономической и политической интеграции Беларуси, России и Украины. Иного выхода нет — ни у Беларуси, ни у России, ни у Украины. В конце концов, что важнее: суверенитет наших народов или суверенитет наших чиновников?

Понимаю, для "незалежных" наших чиновников, плодящихся в последние годы со скоростью болезнетворных бактерий, это чревато потерей кресел, в которых они так уютно "обустроились", и за эту свою "ўласную незалежнасць" они будут отстреливаться до последнего живого белоруса, до последнего живого россиянина, до последнего живого украинца. Но тогда пусть вступит в свою законную силу народная дипломатия, право народа защищать свою жизнь и жизнь своих детей.

Я призываю нашего президента возглавить этот процесс. Он — поистине народный президент, его место среди народа, а не среди окончательно сбесившихся с жиру и от собственного величия чиновников. Когда-то Русь объединил Киев, потом Москва. Не настал ли черед Минску?

*Валентин АКУЛОВ,*
*доктор философских наук,*
*профессор.*

## ЕШ, ДЫ НЕ ПАДАВІСЯ

***Старасць — не радасць. Гэта праўда. Доўгімі восенькімі і зімовымі начамі не спіцца мне, усё маё жыццё праходзіць перад вачыма. Прыходзяць і адыходзяць думы.***

***Сёння толькі і чуеш: рэформы, рынак, дэмакратыя, суверэнітэт, правы чалавека, адраджэнне. Што ж прынеслі яны простым людзям?***

Правы чалавека, сапраўды, пашырыліся. І я, карыстаючыся гэтым, смела выказваю свае думкі.

А адраджэнне? Вось гэтага, прабачце, не разумею. Я.Купала, Я.Колас у сваіх творах вельмі праўдзіва апісалі жыццё беларусаў да савецкай улады. Ды і я сама добра памятаю, як мая мама хадзіла ў лікбез: вучыла чытаць і пісаць непісьменных. Памятаю сялянскія хаты без падлогі, з лучынай на прыпечку. І — цяжкае ваеннае, пасляваеннае жыццё.

Думаю, галоўнае сёння не адраджаць, а развіваць, паляпшаць тое добрае, што было дасягнута раней.

Разважаю далей: суверэнітэт, рынак, рэформы. Не так даўно нас лічылі вялікай, сапраўды суверэннай дзяржавай. З ёю лічыўся ўвесь свет, яна сама многім краінам дапамагала. Цяпер ужо нам дапамагаюць, а асабіста мне з кожным месяцам жывецца ўсё горш і горш. Рэформы абрабавалі народ, пазбавілі яго права кіраваць дзяржавай. Рэформы і рынак пазбаўляюць нас і спакойнай старасці.

Як жа можна спакойна паміраць, калі наша дзяржава, што той жабрак з працягнутай рукою, усё нешта выпрошвае. І да нас усё вязуць і вязуць тавары ў прыгожай упакоўцы. Вось я купіла алей. А па радыё чую, што паступіла вялікая яго партыя з павышанай колькасцю хімічных элементаў, небяспечных для жыцця. Так што еш, ды толькі не падавіся.

Звяртаюся да ўсіх сумленных людзей, каму рэформы нічога не далі: яшчэ і яшчэ раз усё добра абдумайце, перш чым галасаваць у час чарговых выбараў нашага парламента.

*Таіса РЫБАКОВА.*
*г.Клецк.*

АД АЎТАРА. Ганарар прашу пакінуць на патрэбы рэдакцыі.

■ Пасля крытыкі

## "МЯНЕ ЗАВАЛІЛІ ПЯСКОМ І ЦІНАЙ"

Пад такім загалоўкам 1 лістапада гэтага года ў «Мінскай праўдзе» было змешчана пісьмо жыхаркі г.Дзяржынска Н.Макоўскай. Жанчына скардзілася: калі ў 1992 годзе чысцілі дно рэчкі, якая працякае побач з яе домам, увесь пясок, шкло і іншы хлам звалілі на яе ўчастку. Нават новая агароджа не вытрымала — згніла.

Рэдакцыя атрымала адказ на крытычнае выступленне з Дзяржынскага гарадскога вытворчага аб"яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У ім паведамляецца: грунт ля дома Н.Макоўскай прыбраны, агароджа адрамантавана.



## Новая газета — "Товарищ"

Секретарю ЦК ПКБ В.Н.Новикову в Министерстве культуры и печати было вручено свидетельство № 1000 о регистрации газеты белорусских коммунистов под названием "Товарищ".

Это издание будет выходить пять раз в неделю форматом газеты "Правда" на русском и белорусском языках. Главная задача этого печатного органа — пропаганда принципов подлинной демократии, борьба за социальную справедливость и гуманизм, утверждение социалистического пути развития общества, защита людей труда.

Первый номер этой газеты планируется выпустить к III съезду ПКБ, который состоится 17—18 декабря с.г.

*/Наш корр./.*

## Крымінал-тэлетайп з Салігорска

### Людзі гінуць за метал

За крадзеж каляровых металаў ужо асуджаны некалькі чалавек. Але «медная ліхаманка» не спыняецца. За плотам, пад аховай, на тэрыторыі малочнага завода знаходзіўся кабель зварачнага апарата, які належаў малому прадпрыемству «Беларусь». Неяк раніцай гаспадары не ўбачылі яго на месцы...

А непадалёку, на тэрыторыі даволі саліднай арганізацыі, работнікі міліцыі ноччу ў «Жыгулях» знайшлі некалькі мяшкоў, напоўненых каляровым металам. На пытанне, каму яны належаць, не адклікнуўся ніхто. Хаця ўладальніка аўтамабіля, вядома, устанавіць няцяжка...

### За ўсё плаціць трэба

Гэтую ісціну, відаць, забыў трыццацідвухгадовы Мікалай Б. А, можа, ведаў, ды не меў для таго сродкаў, бо нідзе не працаваў. І ў вольны час амурнічаў з Ірынай Т.

Чымсьці мужык усё ж не дагадзіў сваёй сужыцельцы. За што і паплаціўся. Ірына схапіла нож. І Мікалая даставілі ў бальніцу з параненым жыватом. Што ж, і ў каханні патрэбна акуратнасць, разважлівасць.

### Ну і хамут

Здаецца, у нашым грамадстве зноў ствараецца рэвалюцыйная сітуацыя. Пачынаецца экспрапрыяцыя «кулакоў». Адзін з жыхароў вёскі Акцябр займеў ажно два хамуты, паяльную лямпу і іншую прыватную ўласнасць... А аднойчы заглянуў у хлеў — замок сарваны, ні хамутоў, ні лямпы...

Работнікі міліцыі «экспрапрыятара» вылічылі хутка. Ім аказаўся мясцовы бядняк, пяцідзесяцігадовы Мікалай Б. Хамуты вярнулі на месца. Злодзей пакараны. У першую чаргу маральна.

### Ногі мае, ногі...

Словы гэтыя трыццацігадовы рабочы Слуцкага аўтарамонтнага завода Леанід К. вымаўляў з вялікай крыўдай у голасе. Бо сапраўды, падвялі ногі мужыка.

А пачыналася ўсё быццам бы нядрэнна. У Салігорску, на міні-рынку каля магазіна «Юбілейны», Леанід, выбраўшы момант, схапіў бляшанку з растваральнай кавай з прылаўка. І даў лататы. Але ўсчаўся крык, яго тут жа злавілі.

Вядома, ногі нічога не вартыя...

### Будуць шашлыкі

Наўрад ці ў нашы дні ёсць такое, чаго б яшчэ не кралі. Адчыніла жыхарка вёскі Ананчыцы хляўчук і адразу ўбачыла, што няма яе самага лепшага барана і авечкі. Агульнай вагой каля сотні кілаграмаў і коштам больш за 400 тысяч рублёў.

Заплакала жанчына. Потым супакоілася. Падумала: можа, не адразу з яе жывёлін шашлыкі зробяць? А раптам гэтую пару нейкі бедны фермер для разводу ўзяў...

### Пагрэўся — ажно мароз па скуры

Мікалаю Х., рабочаму ліцейна-механічнага завода, здалося, што ён зусім ненадоўга пакідаў сваю кватэру. І замкнуў яе. А вярнуўся — няма тэлевізара, двух ложкаў, шафы з адзеннем.

Згарэла ўсё. У літаральным сэнсе. Бо Мікалай перад гэтым карыстаўся электрагрэлкай. А выключыць яе забыў. Ну а далей — справа вядомая: грэлку замкнула, полымя....

### Не размінуліся

Здаецца, якую хуткасць можна развіць у вёсцы на веласіпедзе? Ці на трактары? Аказваецца, даволі небяспечную. Ва ўсякім выпадку, дваццацігадовы Анатоль Б., жыхар вёскі Скаўшын, запомніць гэта надоўга. Бо менавіта ён, едучы на веласіпедзе, сутыкнуўся з трактарам. Трактару нічога, а Анатоль апынуўся ў бальніцы са страсеннем мазгоў і пераломамі рэбраў.

Цікава, што як трактарыст, так і веласіпедыст былі цвярозыя. Ды неасцярожныя.

■ АПК і рынак

# Не растуць каўбасы ў агародчыку,

*або Крыўдна вяскоўцам, калі заробленыя іх мазолістымі рукамі грошы своечасова не вяртаюць дзяржаўныя прадпрыемствы*

**Землі калгаса "Радзіма" ўшчыльную прылягаюць да райцэнтра. Тут шмат супескаў. У засушлівыя гады (якім быў і сёлетні), вядома ж, высокіх ураджаяў не атрымаеш. І ўсё ж на круг выйшла па 37,6 цэнтнера збожжавых, 128 — бульбы, 190 — цукровых буракоў. Нябдага ўрадзілі лён, караняплоды.**

Гаспадарка спецыялізуецца на вырошчванні насення збожжавых культур. Таму і пастараліся прадаць дзяржаве 1.700 тон азімай пшаніцы, ячменю, жыта вышэйшых рэпрадукцый. Аднак крыўдна вяскоўцам, што на канец кастрычніка запазычанасць калгасу прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі склала каля 200 мільёнаў рублёў. Грошы абясцэньваюцца. Ужо цяпер, каб купіць літр бензіну, трэба прадаць 8—10 літраў малака. За што набываць паліва, будматэрыялы, «мінералку»? Як разлічвацца з людзьмі па зарплаце? Парадокс: бываюць дні, калі няма чаго заліваць у бензабакі аўтамашын.

Жыццё не спыніш. Хочам мы таго ці не, а трэба думаць, як перазімаваць. Закончана падрыхтоўка жывёлагадоўчых ферм да стойлавага ўтрымання статка. Паколькі дапушчана зніжэнне вытворчасці малака і мяса, вырашана абнавіць матачнае пагалоўе кароў. Закуплена ў агракамбінаце «Сноў» 50 цялушак, якія маюць высокі генетычны патэнцыял. Маладняк ад уласных кароў бярэцца на асаблівы ўлік, утрымліваецца на лепшым кармавым рацыёне. Асаблівы клопат — кармацэхі. Раней запусціць іх у дзеянне было проста. Цяпер жа, каб набыць запчасткі да саламарэзкі або да агрэгатаў па здрабненню караняплодаў, даводзіцца ехаць у краіны блізкага замежжа. Старшыня праўлення К.К.Гарбуз лічыць, што нягледзячы на цяжкасці «цэх жывёлагадоўлі зіму вытрымае». Хаця давядзецца зоаветэрынарнай службе, усім кадрам шмат папрацаваць, каб зусім не «скаціцца ўніз».

Будзённыя клопаты, турботы. Едзеш палявымі дарогамі і міжволі залюбуешся рунню азіміны. Жыта і пшаніца пасеяны ў тэрмін, у асноўным па ўгноенай глебе. У вёсцы Карцэвічы ў свірнах даводзіцца да ладу насенне яравых культур. Кладаўшчык Д.Драчан раскажа, што яшчэ ад бацькі, патомнага земляроба, ён засвоіў цвёрдае правіла: «Рыхтуйся да вясны з восені».

Вяскоўцы, як вядома, не могуць пахваліцца высокімі заробкамі. Яны ніжэйшыя, чым у тых, хто распараджаецца іх прадукцыяй. Дык як жа жыць? Гэта толькі недасведчаным людзям здаецца, што каўбасы і вяндліна растуць у агародчыку, пад вокнамі, што хаты ўзводзяцца па шчупаковаму загаду. Даглядчык жывёлы К.Шаўковіч усё лета пасвіў кароў. Яму не было часу нават у выхадны дзень з'ездзіць у райцэнтр, каб купіць што-небудзь з адзення для сваіх малышоў (жонка ў дэкрэтным водпуску, на руках двое дзяцей). Жыве сям'я ў бацькоў Шаўковіча, шмат нязручнасцей. «Мне б кватэрку мець якую-небудзь», — не раз гаварыў ён К.Гарбузу. І вось мара спраўдзілася. У вёсцы Малева калгас пабудаваў двухкватэрны дом. Тут справіць наваселле і Шаўковіч. Праўда, давядзецца некаторыя аддзелачныя работы выконваць самому (матэрыяламі калгас забяспечвае).

Наогул, хоць са скрыпам, але тое-сёе ў гаспадарцы будуецца. У вёсцы Саская Ліпка растуць тры аднакватэрныя дамы. Заканчваецца ўзвядзенне гаспадарчым спосабам урачэбнай амбулаторыі. (Адпадзе неабходнасць з-за лёгкага недамагання ехаць у раённую бальніцу). Вялікія надзеі ўскладаюць калгаснікі на гандлёвы цэнтр. Яго будуе МПМК-217 за сродкі Міністэрства сельскай гаспадаркі рэспублікі. Пад адным дахам будуць два магазіны, сталовая, гасцініца. На жаль, тэмпы работ на гэтым аб'екце невысокія (фінансы паступаюць нерэгулярна).

Засох на корані былы комплексны прыёмны пункт. Дырэкцыя РКБА не мае сродкаў, каб падтрымліваць яго. Ды і паслугі вельмі дарагія. Калгас узяў на свой баланс гэты аб'ект, закупіў абсталяванне. Цяпер тут шыюць рабочае адзенне для кадраў вядучых прафесій. Могуць выканаць і больш складаныя заказы, па жаданню вяскоўцаў.

Жыццё не спыніш. У вёсках гуляюць вяселлі, радзіны, праводзіны ў армію. Калгас дапамагае людзям чым можа: выдае збожжа, фураж для жывёлы, цукар, грэцкія крупы, муку, агародніну...

— Без калгаса мы б вельмі гаравалі, — сказаў адзін дзядок-пенсіянер. — Таму нават мы, састарэлыя людзі, ідзём па магчымасці на працу. Усе, хто можа, трымае кароў, свіней, птушку. Многія нават здаюць парсюкоў у нарыхтоўчую кантору або прадаюць на базары.

...Крыўдна жыць без грошай, асабліва калі яны ўжо заробленыя. І ўсё ж у той дзень, калі быў у гаспадарцы, пранеслася чутка, што пэўную суму вяртае цукровы камбінат. Значыць, можна будзе ўздыхнуць з палёгкай. Набыць трохі паліва, выдаць людзям зарплату. Трэба ўкладваць сродкі, каб гаспадарка нармальна жыла і развівалася.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*
*Нясвіжскі раён.*

■ Падзея тыдня

# ГРОШЫ БУДУЦЬ У ТЫХ, У КАГО ЯНЫ ЁСЦЬ

На мінулым тыдні галоўнай падзеяй на фінансавым рынку стаў чацвёрты выпуск дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый на суму 20 мільярдаў рублёў. Спецыялісты чакалі пэўных цяжкасцей з размяшчэннем выпуску, бо да апошняга дня патэнцыяльныя інвестары не атрымалі ад Мінфіна пісьмовых умоў размяшчэння сродкаў.

Але апасенні аказаліся дарэмнымі. Умовы размяшчэння ДКА былі намнога лепшыя, чым у папярэдніх выпусках. Да аднаго банкаўскага дня быў скарочаны тэрмін пераводу грошай інвестарамі.

Прыемнай нечаканасцю з"явілася і тое, што пры намінальным кошце аблігацый 10 тысяч рублёў была ўстаноўлена рыса адсячэння на мяжы 5,5 тысячы рублёў, што адпавядае размяшчэнню інвестарамі сродкаў пад 351 працэнт гадавых. Такім чынам, дзяржава, звярнуўшыся за пазыкай да банкаў і фінансавых кампаній, дала магчымасць банкам і кампаніям няблага зарабіць.

Згодна з правіламі і ўмовамі размяшчэння ДКА лічыцца, што таргі адбыліся, калі выкуплена не менш як 10 працэнтаў аблігацый. У першы ж дзень таргоў быў размешчаны практычна ўвесь выпуск. Трэба адзначыць актыўны ўдзел у таргах Белпрамбудбанка. Толькі адна яго заяўка магла б забяспечыць неабходны мінімум куплі аблігацый, каб таргі лічыць удалымі.

Актыўна размяшчалі свае сродкі ў ДКА Знешэканомбанк, банк "Беларусь", Алімпбанк, Прыёрбанк, фінансавая кампанія "Фіко".

Як адзначаюць першасныя інвестары, праблем з фарміраваннем другаснага рынку ДКА не будзе. Заяўкі на пакупку аблігацый пачалі ўжо паступаць з многіх кампаній. Не застанецца ўбаку і Нацыянальны банк, які забяспечваў практычна стопрацэнтную ліквіднасць папярэдніх выпускаў дзяржаўных абавязацельстваў.

Адзінае, што турбуе ўдзельнікаў фінансавага рынку, — няўпэўненасць у даўгавечнасці сённяшняга ўрада. Зменіцца "каравул", і дзе гарантыя, што новы Кабінет Міністраў не скажа сённяшнім інвестарам, як некалі сказаў Ленін замежным крэдытарам Расіі: "А я ў вас нічога не пазычаў!"

Але такі ход падзей хаця і магчымы, ды малаверагодны. Нават і пры змене ўрада наўрад ці захоча новае кіраўніцтва ісці на канфлікт з уплывовымі фінансавымі ўстановамі. Прасцей падрыхтаваць чарговы выпуск абавязацельстваў і пагасіць запазычанасць перад інвестарамі. І гэтак далей...

Успамінаеце піраміду, створаную вядомым "МММ"? У адных бяруць грошы і разлічваюцца з іншымі. Выйграюць адзінкі. Тое ж і тут, адзначаюць фінансавыя эксперты, толькі пад эгідай дзяржавы, якая пакуль што не знаходзіць іншага выйсця з вострага эканамічнага крызісу.

*Павел ВЕРАБ"ЁЎ.*

■ В партиях и движениях

# ЧТОБЫ "ЗАЯЦ" ВСТАЛ НА ЛАПЫ

Признание белорусского "зайца" единственным платежным средством на территории Беларуси еще больше понизило его курс, как по отношению к иностранной валюте, так и по отношению к российскому рублю.

Как сообщил руководитель пресс-службы Славянского собора "Белая Русь" Владимир Моисеенко, единственным реальным возможным выходом из краха финансовой системы республики Славянский собор "Белая Русь" считает возобновление переговоров с Российской Федерацией о введении единой денежной системы, что, по мнению партии, поможет восстановить разорванные экономические связи, облегчит сбыт изготовленной продукции и повысит уровень жизни населения. Таким образом начнет выполняться поддержанная народом предвыборная программа президента.

*/НАШ КОРР./.*

**Навіны Гродзеншчыны**

## ПРЫРОДА ПАД АХОВАЙ

Гідралагічны заказнік "Навасёлкі" створаны ў Ашмянскім раёне. Рашэннем мясцовых улад тут забаронены меліярацыйныя работы, высечка дрэў і кустоўя, іншыя віды гаспадарчай дзейнасці. Зроблена гэта для стабілізацыі воднага рэжыму ў пойме рэчкі Алянка і возера Аськовічы. Заказнік займае некалькі дзесяткаў гектараў.

## СТВОРАНА ЛІТОЎСКАЕ ТАВАРЫСТВА

Садзейнічаць нацыянальнаму адраджэнню заклікана Літоўскае культурна-асветніцкае таварыства, якое створана ў прыгранічным Воранаўскім раёне Гродзеншчыны. Аб"яднаўшы некалькі дзесяткаў чалавек, яно ставіць сваёй мэтай вывучэнне мовы, гісторыі, звычаяў і культуры літоўскага народа. У вёсцы Пеляса працуе няпоўная сярэдняя школа, дзе выкладанне вядзецца па-літоўску. Намечана адкрыццё такіх класаў і факультатываў у іншых месцах, дзе кампактна пражывае літоўскае насельніцтва. Арганізацыйны камітэт таварыства, які ставіць аналагічныя мэты, з"явіўся і ў Гродне. Дарэчы, такое таварыства тут дзейнічала яшчэ да вайны.

## ЗАПРАШАЕ "КОТ І САБАКА"

Магазін з назвай "Кот і сабака" адкрыўся на адной з вуліц у Гродне. Тут можна набыць для братоў нашых меншых не толькі любую "амуніцыю", але і прадукты харчавання, вітамінныя і мінеральныя дабаўкі, прычым для жывёлін рознага ўзросту. Многія з прапануемых тавараў выпусцілі і паставілі замежныя фірмы. Таму каштуюць яны нятанна. Напрыклад, кош з лазы, прызначаны для адпачынку кацянят і шчанюкоў, абыдзецца пакупнікам у 5.500 беларускіх рублёў. Ёсць у магазіне таксама секцыя для хатніх птушак.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Актуальнае інтэрв"ю

*Іван Антоненкаў:*

# ПАТРЭБНЫ НЕ ВЫКАНАЎЦЫ, ПАТРЭБНЫ ГАСПАДАРЫ

**Хто ведае: не было б непрадказальнага Хрушчова з яго заклікам: "Сельскагаспадарчыя ВНУ і тэхнікумы — на вёску!" — магчыма, лёс прадказаў бы Івану Платонавічу Антоненкаву зусім іншы шлях. А, можа, і наадварот: хрушчоўская ініцыятыва толькі крышку "спраміла" тую сцяжынку, па якой даўно ішоў хлопец "з сям"і васьмярых дзяцей". Ішоў праз любімую каняферму ў роднай вёсцы Васькова на Мсціслаўшчыне, праз Віцебскі ветэрынарны інстытут, дзе вучыўся, а затым і працаваў, праз аспірантуру, нарэшце, праз Чэрвеньскі райком партыі, дзе меў даволі перспектыўную пасаду сакратара райкома.**

Як бы там ні было, а ўжо каля 30 гадоў І.П.Антоненкаў на выкладчыцкай рабоце і з іх 20 гадоў узначальвае Беларускі завочны сельскагаспадарчы тэхнікум — адзіную і ў гэтым сэнсе унікальную навучальную ўстанову, якая вучыць "розуму" людзей дарослых. Іван Платонавіч тэхнікум пачынаў, будаваў, пашыраў. Але і цяпер не самазадаволена здымае плады з раней пасаджанага "саду" завочнай аграрнай адукацыі, а песціць, даглядае і па-бацькоўску шануе кожнае яго дрэва. І нават калі ўслед за Бальзакам сцвярджае, што "галоўную, калі не адзіную прынаду ў жыцці бачыць у жанчыне", пры ўсёй яго сур"ёзнасці сказанае нельга прымаць без разумення таго, што ў ім ёсць пэўная порцыя гумару. Бо "прынада" ў выглядзе тэхнікума так ці інакш выходзіць на першае месца. Кажуць: работа — другі дом. У дачыненні ж да асобы Івана Платонавіча Антоненкава можна канстатаваць: для яго работа — родны дом.

З гэтым чалавекам, "дырэктарам многіх дырэктараў", маючы на ўвазе выпускнікоў тэхнікума, нават пра самыя будзённыя справы гутарыць прыемна і павучальна.

***— Іван Платонавіч, у некалькіх словах: што такое БЗСГТ?***

— Наш тэхнікум займае асобае месца ў сістэме сельскагаспадарчай адукацыі рэспублікі. За гады існавання ён спраўна выконваў дзяржаўны заказ свайго часу: рыхтаваў дысцыплінаваных, тэхналагічна граматных выканаўцаў рашэнняў, прынятых вышэйстаячымі органамі. Мы паспяхова змагаліся за выкананне планавых паказчыкаў, якія характарызуюць работу любой навучальнай установы (працэнт яўкі на сесію, адсеў, другагоднінства, якасная паспяховасць і г.д.), і неаднаразова займалі прызавыя месцы ў штогадовым сацыялістычным спаборніцтве.

Цяпер сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы змянілася. Змяніліся і эканамічныя адносіны ў вёсцы. Ідзе працэс стварэння самастойных сялянскіх гаспадарак. Ды і ў калгасах і саўгасах унутрыгаспадарчы разлік надае ўсё больш самастойнасці структурным падраздзяленням. З"явіліся людзі, якія свядома вырашылі працаваць на зямлі: арандатар, які наважваецца выйсці з буйной гаспадаркі; гараджанін, які бярэ ў арэнду зямлю ў калгаса ці саўгаса; былы ваеннаслужачы, які вырашыў звязаць свой лёс з сельскай гаспадаркай. Інакш кажучы, фарміруецца новая катэгорыя землязробаў-гаспадароў, а не выканаўцаў. Аднак многія з іх адчуваюць недахоп спецыяльных ведаў і ўмення. І задача нашага тэхнікума — даць ім гэтыя веды.

***— Аднак гэткая ж задача і 33 астатніх ВНУ і тэхнікумаў аграрнага профілю рэспублікі, не гаворачы пра шырокую сетку сельскагаспадарчых ПТВ. Хацелася б, каб вы больш падрабязна спыніліся на тэме завочнай вучобы. Чаго ў ёй больш, прабачце за прамату, ушчэрбнасці ці прывабнасці?***

— На карысць завочнай формы навучання шмат фактараў. Менавіта яна дае магчымасць з найменшымі затратамі атрымліваць дастаткова трывалыя веды і граматна працаваць на зямлі. Гэта асабліва актуальна ў наш час, калі жыць стала намнога цяжэй і не кожнаму па кішэні вучыцца стацыянарна.

Важная і наступная акалічнасць. На завочнае навучанне ідзе, як правіла, даволі сталы чалавек, які ўжо нейкі час працуе па абранай або блізкай да яе спецыяльнасці. Гэты спецыяліст звычайна замацоўваецца надзейна. Тут яго радзіма, яго родны кут. А як гаварыў Вільямс, ніхто так не любіць сваю зямлю, як той, хто на гэтай зямлі нарадзіўся.

***— Але існуе меркаванне не "ў актыў" завочнага навучання, многія да яго ставяцца як да другасортнага.***

— Дазвольце не пагадзіцца з імі. Практыка набыцця спецыяльнасці без адрыву ад вытворчасці існуе ў многіх краінах. Няхай няма тэрміну "завочнае навучанне", але ёсць людзі, якія адначасова і працуюць, і вучацца, ёсць сетка курсаў, дзе работнік можа павысіць сваю кваліфікацыю без адрыву ад асноўнай дзейнасці. Да нас прыязджалі англічане, амерыканцы, галандцы, чэхі, палякі, і ўсе яны з разуменнем і адабрэннем ставіліся да нашай методыкі. Безумоўна, навучанне па завочнай схеме мае сваю спецыфіку. І ў поўнай меры рэалізаваць яе можна ў спецыялізаванай навучальнай установе, якой і з"яўляецца наш тэхнікум.

Галоўнае тут — найбольш эфектыўнае выкарыстанне вучэбнага часу. Забяспечыць гэта можна аптымальнымі методыкамі на аснове навейшых дасягненняў сельскагаспадарчай і педагагічнай навукі, умелым падборам вучэбнага матэрыялу. Побач з традыцыйнымі формамі навучальнай работы (аглядньімі лекцыямі, семінарскімі заняткамі, лабараторна-практычнымі заданнямі) мы шырока выкарыстоўваем урокі на вытворчасці, дзелавыя гульні. Абсталяваны камп"ютэрны клас, і ў навучэнцаў ёсць магчымасць набыць навыкі работы на камп"ютэры.

Важна таксама, што навучальны працэс ідзе не толькі ў час лабараторна-экзаменацыйнай сесіі. Ён працягваецца і ў міжсесійны перыяд. Навучэнцы маюць магчымасць у любы час прыехаць у тэхнікум, пасяліцца ў інтэрнаце і атрымаць вычарпальную кансультацыю па ўсіх прадметах.

***— Сацыяльна-эканамічныя змены ў вёсцы, аб якіх вы гаварылі, запатрабавалі, відаць, змен не толькі ў змесце і формах навучання, але і ў яго напрамках. Па якіх спецыяльнасцях апошнім часам ідзе падрыхтоўка кадраў?***

— Тэхнікум вядзе навучанне па спецыяльнасцях "Агранамія", "Заатэхнія", "Пчолагадоўля", "Арганізацыя работы сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак", "Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт". Вядома, існуючы пералік сёння не ў поўнай меры адпавядае патрэбам аграпрамысловага комплексу. Таму мы рыхтуем дакументацыю і абгрунтаванне неабходнасці адкрыцця новых спецыяльнасцей. У прыватнасці: "Захоўванне і перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі", "Арганізацыя камерцыйнай дзейнасці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў", "Сельскагаспадарчая радыялогія", "Правазнаўства". Тым больш што матэрыяльная база дазваляе гэта зрабіць.

Хачу падкрэсліць: сёлета на ўсе спецыяльнасці, акрамя бухгалтарскага ўліку, уступныя экзамены не праводзяцца. За іх залічаны адзнакі выпускных экзаменаў за сярэднюю або базавую школу. А залічэнне ў тэхнікум вядзецца па выніках гутаркі. І наогул, на наш погляд, уступныя экзамены па завочнай сістэме навучання можна адмяніць. Іх павінна замяніць разгорнутая сістэма ўваходнага кантролю, якая дае магчымасць вызначыць матывацыю паступлення на вучобу, асобасныя характарыстыкі абітурыента, магчымасць яго работы на кіруючай пасадзе. Менавіта вынікі такой "экзаменоўкі" павінны вызначаць, каго вучыць.

***— Іван Платонавіч, а ці будуць жадаючыя вучыцца? Не сакрэт, што ў ходзе так званых "рэформ" народ у цэлым страшна збяднеў: людзі часта адмаўляюцца ад магчымасці паабедаць у сталовай, ад карыстання паслугамі службы быту, ад "лішніх" паездак адзін да аднаго, нават ад уладкавання малышоў у дзіцячы садок. А тут такая "раскоша", як вучоба. Ужо сёння ў многіх ВНУ пэўныя паслугі ў навучальным працэсе платныя...***

— Праблема складаная. Яна ўзнікае і перад намі. Сапраўды, за чый кошт вучыць спецыяліста сельскай гаспадаркі? Даводзіцца чуць: "Той, хто вучыцца, павінен плаціць за гэта сам. Як на Захадзе!" Што тут скажаш? Па-першае, на Захадзе навучэнцы таксама плацяць не заўсёды самі. Па-другое, там іншы ўзровень жыцця. А нам трэба зыходзіць з нашых, мясцовых умоў.

Калгасы і саўгасы не зацікаўлены несці расходы на навучанне работнікаў, якія не сёння-заўтра стануць гаспадарамі, адлучацца ад калектыву. Застаюцца два варыянты: уласная кішэня навучэнца, а часцей — яго бацькоў, ці дзяржаўны клопат пра яго. Заплаціць за вучобу сучаснаму селяніну проста няма чым. І таму грамадства, якое доўгі час брала і бярэ з вёскі, абавязана дапамагчы ёй узняцца, у тым ліку і шляхам падтрымкі ў навучанні кадраў для яе. Навучанне сельскагаспадарчым спецыяльнасцям, прынамсі на гэтым этапе, павінна фінансавацца дзяржавай.

***— Акрэсленая праблема, відавочна, адна з многіх. Што яшчэ перашкаджае вам, выкладчыкам, эфектыўна працаваць, а маладым людзям — вучыцца?***

— Тое, што залежыць ад кіраўніцтва, педагагічнага калектыву, мы імкнёмся вырашаць своечасова і кардынальна. У нашых навучэнцаў не ўзнікае бытавых праблем: у час сесіі ўсе забяспечваюцца інтэрнатам, ёсць сталовая, дзе можна адносна нядорага паесці.

Аднак, скажам, такое пытанне, як забеспячэнне якаснай метадычнай і вучэбнай літаратурай, — не ў нашай кампетэнцыі. Яе стала значна менш. Выкладчыкам даводзіцца па крупінках, па розных крыніцах збіраць неабходны матэрыял. А як быць навучэнцам, калі адзінай крыніцай інфармацыі для іх часам з"яўляецца толькі канспект? Выкананне дамашніх кантрольных работ з-за адсутнасці падручнікаў ператвараецца ў істотную праблему.

Возьмем іншае. Дзе прайсці, напрыклад, вытворчую пераддыпломную практыку будучаму фермеру, дзе навучыцца арганізацыі работы сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак? Нашы беларускія фермеры пакуль не гатовы да такой справы, ды я і не ведаю такой фермерскай сядзібы, якая была б тэхналагічна абсталявана. Нават нашы выкладчыкі вымушаны па карцінках расказваць аб фермерскім падворку, бо не бачылі такога: ні свайго мясцовага, ні тым больш зарубежнага. А варта было б пасылаць нашых выкладчыкаў хаця б на кароткачасовую стажыроўку за мяжу. Адтуль жа да нас едуць...

А ў нас іншы раз кіраўнік не жадае адпускаць навучэнца на сесію ці аплочваць яму праезд на экзамены. Наогул, для завочнікаў варта было б устанавіць больш ільгот. Напрыклад, аплачваць праезд на сесію і з сесіі, г.зн. у два канцы, захоўваць на час сесіі заработную плату ў размеры 100 працэнтаў ці ўстанавіць яе размер у залежнасці ад паспяховасці. Нешта накшталт павышанай стыпендыі на стацыянары.

Словам, трэба ўсяляк стымуляваць вучобу. Яна патрэбна не толькі самім маладым людзям, яна патрэбна перш за ўсё дзяржаве, якая спадзяецца ўсё ж адрадзіць вёску, зрабіць сельскагаспадарчую вытворчасць больш эфектыўнай. Без адукаваных спецыялістаў, без гаспадароў-таваравытворцаў гэта проста немагчыма.

*Гутарыў*
*Мікалай КАРОЛЬ.*

*НА ЗДЫМКАХ:* дырэктар БЗСГТ, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь **І.П.Антоненкаў**; на занятках па механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі 43-я група 4-га курса аграномічнага аддзялення (у цэнтры — выкладчык **М.А.Ставер**); у лабараторыі вылічальнай тэхнікі (на пярэднім плане — пяцікурсніца бухгалтарскага аддзялення **Ж.Э.Знаскевіч** і выкладчыца **Л.А.Чупрынская**); прадмет "Асновы радыяцыйнай бяспекі" ў ліку асноўных, і таму з цікавасцю вывучаюць яго будучыя бухгалтары **Н.В.Несцяровіч** і **С.В.Аспеннікава**, а таксама **В.В.Белячкова, В.М.Кавалёва** і **І.М.Садоменка.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*

